# НІВА

Год выдання V
№ 34 (234)
21 ЖНІЎНЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА




ВЕРА ХАРУЖАЯ.
Работа З. Азгурэ

## ВЕРА [1)]

М. АРЭХВА

Свае ўспаміны пра Веру Харужую я пішу не як гісторык - даследчык — удумлівы, але бясстрасна выбіраючы патрэбнае з пажоўклых аркушаў архіўных дакументаў. Не, я беражліва перагортваю старонкі маёй памяці, уваскрашаю ў ёй жывую Веру, такую, якой асабіста ведаў яе праз доўгія гады барацьбы на зямлі маёй роднай Заходняй Беларусі.

Калі Вера пачала сваю дзейнасць у заходнебеларускім рэвалюцыйным падполлі (люты 1924 г.), ёй было толькі дваццаць гадоў.

У той час палітычныя абставіны ў Заходняй Беларусі былі далёка не мірныя. Народ змагаўся. У вёсках дзейнічалі партызанскія атрады. Яны разбівалі паліцэйскія пастарункі, палілі памешчыцкія сядзібы, выганялі ненавісных асаднікаў. У гарадах успыхвалі забастоўкі, адбываліся дэманстрацыі на вуліцах. Барацьбу ўзначаліла маладая Камуністычная партыя. Быў створаны яе баявы памочнік — рэвалюцыйны камсамол. Вера ўвайшла ў склад ЦК камсамола і стала яго сакратаром. Яна ўся аддалася барацьбе.

Улады ўвялі ваеннае становішча, увялі надзвычайныя суды, пасылалі карнікаў на «Крэсы ўсходнія». Пачаліся масавыя арышты. Турмы былі перапоўнены палітычнымі зняволенымі. Западозраных ва ўдзеле ў партызанскай барацьбе або ў сувязі з партызанамі расстрэльвалі і вешалі. Але гэта не палохала адважных змагароў за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

**«...Перадай усім ад мяне гарачае сардэчнае прывітанне, — пісала Вера з падполля. — Скажы, што я не толькі жыву, але і гару жыццём, работай, захапленнем, энергіяй. Скажы, што мы жыццё бяром за жабры, не даём сабе з'есці з кашай, і пакуль што гэта выдатна ўдаецца, што мы — пераможцы — пастараемся перамагаць да канца».**

Яна ездзіла па мястэчках і вёсках Палесся, Слонімшчыны, Навагрудчыны, падоўгу затрымлівалася ў Беластоку, Вільні, Гродна. Выступала на нелегальных масоўках з палымянымі прамовамі, заклікаючы да барацьбы, арганізоўвала камсамольскія ячэйкі, гарадскія і раённыя камітэты, памагала ствараць юнацкія секцыі ў прафсаюзах, пісала адозвы.

І хоць Вера вяла такую кіпучую і шматгранную дзейнасць, яна аставалася няўлоўнай для паліцыі. Яна была рухавай, з выгляду нічым не вылучалася сярод другіх жанчын, добра ведала польскую, беларускую і нават яўрэйскую мовы, была ў блізкіх адносінах з простымі людзьмі, якія з ахвотай давалі ёй прытулак, і таму лёгка хавалася ад агентаў дэфензівы.

У Веры была нейкая выключная здольнасць запальваць моладзь сваім аптымізмам, рэвалюцыйным пафасам, асабістым прыкладам. Яна арганічна не магла цярпець адзіноты, заўсёды вакол яе гуртавалася моладзь, якая ірвалася да барацьбы з ненавісным ворагам. Гэта і рабіла Веру важаком, арганізатарам рэвалюцыйнай моладзі.

Пры актыўным удзеле Веры Харужай камсамол Заходняй Беларусі ў 1924—1925 гг. з разрозненых і нешматлікіх гурткоў вырас у масавую арганізацыю. Ён выхаваў нямала добрых важакоў, якія былі асабістымі сябрамі Веры і яе таварышамі па барацьбе.

**«...Але ж я, мамачка, не адна, — пісала яна маці. — О, зусім не адна! У мяне шмат сяброў. І якія яны ўсе харошыя, энергічныя, адданыя, смелыя! Дык вось нам, маладым, адважным, хіба бацца цяжкасцей жыцця?»**

(Працяг на стар. 4)

## ЗАЎСЁДЫ ПЕРШЫМІ

Сёлета на Сакольшчыне назіраецца сур'ёзны крок у разбудове партыйнай арганізацыі. За першыя 6 месяцаў г. г. у рады ПЗПР прынята тут звыш 200 кандыдатаў. Сярод іх шмат настаўнікаў і сялян, у большасці маладых людзей. Калі ўзяць пад увагу мінулыя гады (у 1957 годзе прынята тут усяго толькі 20 кандыдатаў, у 1958 — 21, і ў 1959 — 130 кандыдатаў), дык бачым выразна, што сітуацыя ў справе разбудовы партыі змянілася тут карэнным чынам.

— Гэта зусім невыпадкова, — гаворыць сакратар КП ПЗПР у Саколцы Іван Асеннік. — Нашыя пярвічныя партыйныя арганізацыі пачалі актыўней працаваць, больш чым дагэтуль займацца гаспадарчымі справамі, непасрэдна звязанымі з жыццём сваёй вёскі, аколіцы.

Аб гэтым пераканаўся я, калі з КП накіраваўся ў паасобныя вёскі.

Сітуацыя ў прэзідыуме ГРН Разадранка была кепская. Людзі наракалі на старшыню прэзідыума, на сакратара, бо яны не былі сумленнымі працаўнікамі. З мэтай асабістай нажывы, злоўжывалі сваімі становішчамі.

У Разадранцы яшчэ на пачатку г. г. было толькі тры члены партыі

(Працяг на стар. 3)

### У кастрычніку з'езд Літаб'яднання

**У палове кастрычніка г. г. адбудзецца з'езд Літаратурнага аб'яднання, якое ад чэрвеня 1958 г. існуе пры нашай рэдакцыі.**

**На з'ездзе будуць падведзены вынікі дагэтуляшняй працы, абмяркуецца напрамак працы на будучыню і выбярэцца новае праўленне.**

**Праўленне літаб'яднання звяртаецца да сваіх членаў, а таксама сімпатыкаў, каб дасылалі свае заўвагі і прапановы адносна дзейнасці Аб'яднання (як дагэтуляшняй, так і будучай), што будзе садзейнічаць лепшай падрыхтоўцы і правядзенню з'езду. Жадаючыя могуць выступіць таксама з гэтымі справамі на старонках «Нівы».**

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



МАЦЕЙКАВА ГАРА

фота — Аляксей Казберук

# РЭЙШЫ РУСКІ ЭТ

*ДУБОЎКА*

**Нядаўна грамадскасць Беларусі адзначыла 60-цігоддзе паэта Уладзіміра Дубоўкі, аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай паэзіі. Сёння друкуем яго вершы.**

### Палыны пасівелі на ўзгорку

Палыны пасівелі на ўзгорку,
запрыгоршчыць і кіне іх вецер.
Мо' таму так на свеце горка,
Мо' таму часам горка на свеце?

Калі глянуць на тыя даліны,
калі глянуць на тыя далочкі, —
толькі ліст адвіхнуўся з каліны,
а яго ўжо ў гліну топчуць.

А ў каліне, ў шыпшынніку дзікім
начавалі і сонца і росы.
А ў пялёстках — без меры, без ліку —
з сокам шчасце суздром разлілося.

Адцвітае, усё адцвітае —
і гады, і хвіліны, і кветкі.
Маладосць ты мая залатая,
і цябе панясе так па ветру.

Разліешся пялёсткамі песень
ад мяне ды на тыя даліны.
Там і скруціць іх вецер у дэсань,
бо да зор ад зямлі не дакіне.

Толькі знаю і веру цвёрда,
як у долю краіны роднай,
маіх думак не кіне ў бёрда,
не затчэ утокам нягодным.

Вось затым дарую і крыўду, —
што мінула і што надыдзе.
Калі сэрца каханнем спавіта, —
дык не будзе ў ім месца крыўдзе.

Палыны пасівелі на ўзгорку,
а ў далінах — пялёсткі ад кветак.
Іх калыша з вясёлай гаворкай,
гаркату вытрасае з іх ветрык...

### Зноў вас пабачыў...

Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша утульнасць ізноў мяне крые.
Ціха гамоніць і веццe, і лісце,
як гаманіла калісьці, калісьці...
Вашы вяршыні кранаў я рукою,
ў вашых шатрах я шукаў супакою.
Нас над зямлёй вы ўзнасілі высока,
нас, на прадвесні, паілі вы сокам,
каб шанавалі ад шчырага сэрца
тую зямлю, ад якой ён бярэцца.
Гэту пашану ніколі не траціў,
а узмацняў яе шчырaю працай.
Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша утульнасць ізноў мяне крые...

# ПОМНІК ПАТРЫЁТАМ

31 ліпеня 1941 год. Гітлераўцы подступам склікалі ў Нарву, па даносу мясцовых здраднікаў, 43-х чалавек з вёсак былой нарвенскай гміны. Яны былі служачымі пры савецкай уладзе, арганізоўвалі мясцовую адміністрацыю, арганізоўвалі школы, курсы масавага навучання дзеля ліквідацыі непісьменнасці, клубы. Некаторыя з іх былі выбраны насельніцтвам дэпутатамі ў сельсаветы. Жыхары Нарвы былі ўстрывожаны лёсам затрыманых.

І вось з-пад сядзібы камендатуры жандармерыі ў напрамку Ляцкай пушчы ад'ехалі чорныя самаходы. Мінулі вёску Ваські, а там павярнулі ўлева ў 19-ты квартал пушчы.

Самаходы з гестапаўцамі ізноў вярнуліся ў Нарву, але не вярнуліся тыя, за лёс якіх трывожылася насельніцтва Нарвы.

Вестка аб замардаванні 43-х разышлася хутка па ўсіх вёсках наваколля.

Пад нечар асцярожна пачалі падпаўзаць да магілы родныя замардаваных. Вырашылі дастаць іх целы і пахаваць па-чалавечы, на сваю руку, без дазволу.

— Я быў тады малым хлапчуком. Пайшоў дастаць цела майго бацькі. Расказаць нават цяжка, што было, як мы пазнавалі твары сваіх родных, паколатых, пабітых, пастраляных, — успамінае Аляксандр Янушкевіч, цяперашні жыхар Бельска.

Раніцой наступнага дня сем'і і блізкія замардаваных праводзілі іх у апошнюю дарогу...

Толькі пасля вайны на месцы забойства была зроблена магіла, пастаўлены драўляны крыж, а 22 ліпеня 1959 года — памятная дошка з прозвішчамі замардаваных. Вырашана было таксама пабудаваць помнік. У мінулым годзе быў выбраны камітэт пабудовы помніка, які ўзначаліў загадчык пачатковай школы ў Васьках Піліп Грынявіцкі. З добраахвотных складчын камітэт сабраў адпаведную колькасць грошай і на дзень 22 ліпеня б. г. помнік быў ужо гатовы.



Перад адкрыццём помніка да сабраных звяртаецца старшыня ППРН у Гайнаўцы Б. Внучко.



Ганаровую варту ля помніка трымаюць жаўнеры і мясцовыя армоўцы.

31 ліпеня 1960 г. 19-ая гадавіна злачынства. Адкрыццё помніка ў памяць 43-х замардаваных. На палянцы і навокал ў лесе сабралася столькі народу, колькі ніколі яшчэ ніхто не бачыў у гэтай аколіцы. Прыехалі прадстаўнікі Павятовага камітэта ПАРП і Павятовай рады ў Гайнаўцы, прадстаўнікі і ганаровая рота войска, аркестр. Помнік адкрыты. Прадстаўнікі арганізацый, устаноў, сем'і замардаваных зладжылі вянкі.

Насельніцтва былой нарвенскай гміны свята ўшаноўвае памяць аб загінуўшых.

**М. КУРАШ**

**фота — аўтара**

## Сяляне Сакольшчыны купляюць сельгасмашыны

За апошнія гады земляробы Сакольшчыны ўсё больш пачалі гарнуцца да сельскагаспадарчых машын. У першай палове гэтага года яны купілі ўсялякія сельгасмашыны на звыш 600 тысяч злотых.

Толькі ў месяцы чэрвені сакольскі ПЗГС прадаў сялянам 26 жняярак.

Цяпер на палях Сакольшчыны вельмі часта сустрэнеш сеўнік, жняярку, капалку ці іншую сельгасмашыну. Нават трактар на сялянскіх палях перастае быць тут нейкай незвычайнасцю.

Але ёсць яшчэ вёскі на Сакольшчыне, дзе нават са свечкай не знойдзеш хаця б малейшай сельгасмашыны. Напрыклад, у аколіцах вёскі Рудакі або Ласіняны ніхто не мае нават такой няхітрай, даўно ўстарэлай машыны, як развэрак, не гаворачы ўжо аб сеўніку ці жняярцы.

Сеюць тут у ручную. Жнуць нярэдка серпікамі. Кажуць, што жыхары гэтых вёсак вельмі стойкія ва ўтрыманні старых, традыцыйных звычаяў. Мо' і таму ўраджай у гэтых вёсках заўсёды слабенькі. Ну, што ж. Гэта таксама традыцыя. (вб)

тоўцаў — у духу пралетарскага інтэрнацыяналізма, у духу агульных інтарэсаў з рэвалюцыйным рухам у Польшчы, салідарнасці з моладдзю братняй Савецкай Беларусі. Шырока практыкаваўся абмен пісьмамі паміж асобнымі арганізацыямі камсамола Заходняй Беларусі і Савецкай Беларусі.

ЦК Камсамола Заходняй Беларусі і ЦК камсамола Савецкай Беларусі рэгулярна абменьваліся пісьмамі.

**«... Жывецца ў нас бурна, як ніколі, —** чытаем

# РА

мы ў адным з Верыных пісем. **— Дні ў нас — гэта цэлыя месяцы, а месяцы — гады, вядома, не па аб'ёму часу, а па аб'ёму падзей, якія адбываюцца, па аб'ёму іхняга зместу. Уяві сабе, што ўжо лета 1925 года. Ты разумееш, што гэта значыць? І гэтым самым летам я яшчэ маю магчымасць пісаць табе пісьмо. Не веру сваім вушам і вачам. Як добра! Як цудоўна і нечакана, незвычайна...»**

Выказанае ў гэтым пісьме Верына здзіўленне, што яна ўжо амаль паўтара года працуе ў падполлі і яшчэ не правалілася, было нібы прадчуваннем

У жніўні 1925 года ў Беластоку пачаліся арышты. Устрывожаная ўзмацненнем уплыву камуністаў у масах, паліцыя вырашыла нанесці ім удар. Арышты неўзабаве пашырыліся на ўсю Беластоцкую акругу, захапілі Гарадок, Міхалова, Бельск, Сямятычы і іншыя раёны. Паліцыя арыштоўвала не толькі членаў КПЗБ і камсамола, але і членаў класавых прафсаюзаў, лева настроеных сялян. Лік арыштаваных дайшоў да 2000 чалавек.

Ужываючы самыя жорсткія катаванні і вытанчаныя мучэнні, дэфензіва старалася прымусіць арыштаваных прызнацца ў тым, што яны з'яўляюцца членамі Камуністычнай партыі, і высветліць канкрэтную дзейнасць у яе шэрагах.

Дэфензіва напала і на след няўлоўнай камсамолкі Веры. 15 верасня 1925 года на адной з кватэр у Беластоку яе арыштавалі. Усё было супраць Веры: і фальшывы пашпарт, зроблены на выдуманае прозвішча Карчэўскай Веранікі, і немагчымасць даказаць сваё грамадзянства і пастаяннае месца жыхарства, і інш. За Верай на некалькі гадоў зачыніліся турэмныя дзверы.

Паступова адсейваючы затрыманых, пракуратура арганізавала ў 1928 годзе судовы працэс «133-х».

**«Пішу вам цяпер з турмы. Не засмучайцеся. Нічога асаблівага ў гэтым няма. Я здаровая, маральна адчуваю сябе цудоўна. Нічога, убачымся яшчэ. Хоць, можа, і не так хутка. Што ж мне пісаць пра сябе? Пасля таго бурнага і цікавага жыцця, якім я жыла да гэтага часу, цяжка сядзець у турме»...**

Доўга цягнулася следства. Буржуазная пракуратура збірала супраць Веры доказы. Прэтэнзіі на расправу са сваёй ахвярай прад'явілі адначасова і пракуратура акруговага суда ў Пінску і пракуратура акруговага суда ў Беластоку.

А пакуль што трэба было сядзець і чакаць.

У беластоцкай турме, як і ва ўсіх турмах, зняволеныя мужчыны былі строга ізаляваны ад жанчын. Тое крыло беластоцкай турмы, у якім сядзелі жанчыны, ішло пад прамым кутом да мужчынскіх адзіночак, і праз краты мы маглі бачыць адны другіх. Апроч таго, нас часамі выводзілі на тую частку турэмнага двара, якая была паміж мужчынскімі адзіночкамі і жаночым крылом. Тады мы гулялі пад іхнімі вокнамі. За кратамі жаночых камер часта паказваліся Вера і яе сяброўкі Алена, Люба, Ганна і іншыя. Не зважаючы на грозны вокрык наглядчыка: «Schowaj łeb, stul pysk, psia krew!» — яны падоўгу затрымліваліся ля вокан і ўважліва ўглядаліся ў нас. Мы, праходзячы паўз іх, нават абменьваліся некалькімі словамі і самі падоўгу не адводзілі позіркаў ад іхніх такіх блізкіх і родных абліччаў, ад шчырых вачэй, якія так многа нам гаварылі. Колькі ў іх было спагады і тугі! «Трымайцеся, хлопцы!» І мы трымаліся.

Трэба прызнацца, што нашы палітзняволеныя жанчыны ў беластоцкай турме пераўзыходзілі нас, мужчын, у вытрымцы, арганізаванасці і адзінстве. Там разам з Верай Харужай сядзелі член ЦК КПЗБ Рамана Вольф і Любоў Кавенская. Яны былі ў кіраўніцтве ўсёй турэмнай камуны.

Жанчыны часта спрабавалі выкінуць на дарожку, па якой мы прагульваліся, запіску ці асабістае пісьмо, аблепленае для важкасці хлебным мякішам. Некалькі разоў пісала мне і Вера. Здаралася, што наглядчыкі заўважылі кінутае пісьмо. Тады яны накідаліся на таго, хто падняў «грыпс.» Але мы яго ўмела перакідалі з рук у рукі і гэтак выратоўвалі. Калі ж выратаваць не ўдавалася, хто-небудзь праглынаў ці знішчаў якім іншым чынам. Здаралася, што пісьмо трапляла і ў рукі наглядчыкаў.

**М. АРЭХВА**

 

# Ахвяры Хірасімы

Ад часу, калі на Хірасіму была скінута атамная бомба (6 жніўня 1945 г.), нарадзілася ў гэтым горадзе (да 1954 года) 32.179 дзяцей. Вялікі працэнт — то дзеці недаразвітыя, ненармальныя — вынік смяротных праменняў 15 год таму назад.

Вось афіцыяльная статыстыка Японскага атамнага Інстытута:

500 дзяцей нарадзілася нежывымі.

200 нарадзілася заўчасна.

1 107 нарадзілася з калецтвамі ў будове касцей, мускулаў, нервовымі болямі.

21 — з адным вокам альбо увогуле без вачэй, у гэтым чацвёра зусім без вочавых ямак.

31 — без мозгу.

56 — з недаразвітым мозгам.

11 — без знешніх і ўнутраных органаў нюху.

400 — з недаразвіццём органаў нюху і слыху.

2 — без вушэй.

2 — без рота.

59 — з заячай губой.

172 дзяўчынкі без альбо з недаразвітымі палавымі органамі.

19 — з нетыповым узростам.

250 — без альбо з недаразвітымі губамі.

156 — без простай кішкі.

23 — з недаразвітай простай кішкай

2 — без рук і ног.

27 — толькі з часткамі рук і ног.

**ГЭТА СТРАШЭННЫ ВЫНІК ТОЛЬКІ АДНОЙ АТАМНАЙ БОМБЫ.**

З Беларусі

## АТАМНЫ РЭАКТАР НА БЕЛАРУСІ

Неападаль Мінска хутка расце гарадок Малыя Дубны. У гэтым гарадку Акадэмія Навук Беларускай ССР будуе першы на Беларусі атамны рэактар, які пачне працу яшчэ ў гэтым годзе.

## БЛАКІТНЫ... МАРМУР

Вядома, што блакітны мармур у прыродзе не выступае. Можна аднак яго атрымаць штучна. Такі менавіта мармур выпрадукавалі навуковыя працаўнікі Інстытуту хіміі Акадэміі Навук Беларускай ССР. Апрацавалі яны спосаб прадукцыі штучнага мармуру розных колераў, нават такіх, якія ў прыродзе не выступаюць, між іншым і блакітны мармур.



## НАВІНЫ ТЭХНІКІ

### ПАВЕЛІЧЭННЕ Ў 2 МІЛЬЁНЫ РАЗОЎ

Англійская фірма «Філіпс Электронік» выпусціла электронны мікраскоп маркі «ЕМ—200». Ён сам павялічвае прадметы ў 200 тысяч разоў, а прымяняючы наступнае фатаграфаванне спецыяльнымі фотаапаратамі, можна дасягнуць павелічэння ў 2 мільёны разоў.

### ШКЛО, ЯКОЕ СКРУЧВАЕЦЦА

Шкло, якое можна скручваць у рулон, як паперу, вынайшоў нарвежскі шкляны майстар з горада Осла. Як паведамляюць газеты, рэцэпт, па якому вырабляецца гэтае дзіўоснае шкло, з'яўляецца прафесійнай тайнай гэтага майстра.

### ТУНЕЛЬ ПАД МАНБЛАНАМ

Пачалося будаўніцтва тунеля пад найвышэйшай вяршыняй Еўропы — Манбланам. Даўжыня тунеля — 12 кіламетраў, вышыня 10 метраў, шырыня — 9 метраў.

Пасля заканчэння работ у тунелі будзе пракладзена аўтамабільная дарога, па якой машыны пойдуць у адзін рад у кожным напрамку. Каб пазбегнуць затораў, па абодва бакі тунеля, прыкладна праз кожныя 900 метраў, будуць пабудаваны станцыі тэхнічнага абслугоўвання і рамонту. Праз кожныя 200 метраў у сценах будуць зроблены нішы для адпачынку пешаходаў.

Мяркуюць, што за год па новай дарозе будзе праходзіць 600 тысяч аўтамашын. Работы вядуцца з абодвух канцоў гары, прычым французам і італьянцам трэба будзе прайсці па 6 тысяч метраў тунеля, вынуць 37 тысяч кубічных метраў скалы.



## Парады для гаспадынь

Вялікія клопаты маюць гаспадыні ў летні час з перахоўваннем малака. Каб зберагчы малако ад скісання, трэба пераліць яго ў шкляную банку, паставіць банку ў больш шырокую пасудзіну з вадой і накрыць чыстым мокрым кавалачкам палатна, канцы якога будуць апушчаны ў ваду. Вада, выпараўваючыся з палатна, падтрымлівае ўвесь час у пасудзіне нізкую тэмпературу і гэтым забяспечвае малако ад скісання.

*

Паранае малако можа стаяць 2—3 дні, калі ў час кіпячэння ўсыпаць 1 маленькую лыжачку цукру на 0,5 л. малака.

*

Каб даўжэй захаваць масла, неабходна шчыльна скласці яго ў банку, і, паставіўшы ў каструльку з кіпятком, давесці ваду да кіпення. Калі вада астыне, банку з маслам вымаюць і закрываюць пергаментнай паперай.

*

Калі мяса альбо рыба паляжыць у цёплым месцы суткі, яны набываюць непрыемны запах. Каб знішчыць гэты запах, дастаткова перад гатаваннем добра вымыць, а ў час гатавання ўкінуць некалькі кавалачкаў драўнянага вугалю.

## МОДА

Сучасная мода заключаецца ў скромнай элегантнасці. Г. зн. што наша вопратка павінна быць простай, але прыгожай не толькі для нас саміх, але і для іншых.

Шыйце сабе вопратку паводле фасонаў, якія часта падаем. Быць модным — значыць быць акуратным.

# Аб вачах... сабачых

Вочы — гэта люстра душы, — сказаў адзін разумны чалавек. Бо і праўда. Паглядзіце на гэтыя вочы. І няхай мне хто цяпер скажа, што сабака не мае душы! Сабачыя вочы... Яны як і ў людзей: адны бяздумныя, пустыя, другія глыбокія, разумныя; то часам наіўна какетлівыя; або проста халодныя, хоць і прыгожыя.















1. МАМА
2. ПАЛКОЎНІК
3. КАКЕТКА
4. «КОЦЯК» (сабачы)
5. ВЕНЕРА.
6. ЛЯЛЬКА.
7. АСТРАНАЎТЫ (нашы вочы сягаюць да звёзд).

Здымкі паходзяць з выстаўкі сабак у Маскве. Медалі здабыты ў конкурсах прыгожасці.

P. S.

Клічкі сабакам дала я (В. Л.) паводле ўражання ад іх вачэй. Сапраўдныя клічкі мне невядомы.



 

